# «Неман» з карэктурных лістоў

Як вядома, часопіс «Нёман» выдаецца на рускай мове. Выходзіць ён 6 разоў на год. У ім друкуюцца творы рускіх літаратараў рэспублікі. Знаёміць часопіс сваіх чытачоў і з творамі беларускіх пісьменнікаў, друкуючы іх у перакладах.

Чытачу рэспублікі добра вядомы творы такіх пісьменнікаў, як А. Міронаў, М. Гарулёў, П. Валкадаеў, Н. Кіслік, Ул. Варно, Б. Бур'ян, П. Васілеўскі, В. Тарас, Г. Папоў, П. Шасцерыкоў, Н. Навасёлава, І. Клімашэўская, Д. Сімановіч. Большасць гэтых літаратараў пачынала сваю творчую дзейнасць на старонках «Нёмана». Не парываюць яны сувязь са сваім часопісам і цяпер. Чытач сістэматычна бачыць іх творы на старонках «Немана».

Рэдкалегія і рэдакцыя часопіса шмат увагі аддае выхаванню літаратурнай моладзі. Літаральна ў кожным нумары з'яўляецца новае імя, яшчэ не вядомае чытачу. Толькі за апошні год-паўтара дэбютавалі ў «Немане» празаікі — настаўнік з Магілёва М. Шумаў (аповесць «Жыццё кліча»), настаўніца з Маладзечна Н. Галуза (раздзелы з аповесці «Над намі навальніцы»), кінарэжысёр-дакументаліст С. Прошын (апавяданне «Джугара»), журналісты А. Савелічаў (апавяданне «Спадарожнікі»), А. Сакалоўскі (апавяданне «Дарога да дому»), паэты — майстар спорту з Віцебска Ю. Лакербая, будаўнік з Нясвіжа Н. Шарылаў, мінскі студэнт І. Ласкоў і іншыя. Каля 20 новых імён было прадстаўлена за гэты час нашаму чытачу.

Вядома, творы гэтых таварышаў не вызначаюцца яшчэ вельмі высокімі мастацкімі якасцямі. Магчыма, не ўсе з іх стануць прафесіянальнымі літаратарамі. Але ёсць сярод іх і такія, пра якіх ужо сёння можна гаварыць як аб людзях з бясспрэчнымі літаратурнымі здольнасцямі. Нас усіх у часопісе вельмі абнадзейвае магілёўскі настаўнік М. Шумаў. Яго першая аповесць «Жыццё кліча», надрукаваная летась, сведчыць аб тым, што ў літаратуру ідзе таленавіты пісьменнік са сваім «почыркам». І вельмі крыўдна, што гэта аповесць, якая была вельмі прыхільна су- стрэта чытачом, засталася па-за ўвагай нашай літаратурнай крытыкі. Дарэчы, трэба сказаць, што на старонках рэспубліканскіх перыядычных выданняў наогул рэдка можна сустрэць разгорнутую рэцэнзію на першы твор пачынаючага літаратара, асабліва калі гэта твор малой формы — апавяданне або верш.

Летась са сваім першым апавяданнем выступіў у «Нёмане» С. Прошын. Цяпер аўтар здаў у рэдакцыю аповесць аб месцы мастака ў нашым грамадстве.

За гэты час рускі чытач пазнаёміўся на старонках «Нёмана» з новымі творамі многіх беларускіх пісьменнікаў — П. Броўкі, П. Панчанкі, П. Пестрака, А. Вялюгіна, Ус. Краўчанкі, М. Калачынскага, Ул. Дубоўкі, Ул. Шахаўца, М. Лупсякова, С. Грахоўскага, А. Рылько, І. Навуменкі. Пераклады на рускую мову робяцца ў большасці выпадкаў мясцовымі літаратарамі.

Бяруць удзел у нашым часопісе таксама і пісьменнікі Масквы і Ленінграда.

Змест часопіса не вычэрпваецца, вядома, творамі прозы і паэзіі. Мы сістэматычна, з нумара ў нумар, адводзім даволі значнае месца такому баявому і аператыўнаму жанру, як нарыс. Героі гэтага аддзела часопіса — нашы сучаснікі, тыя, чыімі рукамі ўзводзіцца светлая будучыня чалавецтва — камунізм. Гэтаму жанру мы і надалей будзем аддаваць вялікую ўвагу.

Аддзел «Запіскі, дзённікі, дакументы» знаёміць чытача з гераічным мінулым нашай рэспублікі, са старонкамі баявой славы беларускага народа ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

Не выпадаюць з поля нашага зроку і тэмы мастацтва. Мы рэгулярна выступаем з матэрыяламі аб рабоце нашых тэатраў, не праходзім міма работ мастакоў, скульптараў, змяшчаем творчыя партрэты дзеячоў культуры.

З нумара ў нумар змяшчаецца ў часопісе літаратурная крытыка. Толькі за апошні час разглядаліся праблемы беларускай драматургіі, ваеннай літаратуры, літаратуры для дзяцей і юнацтва, беларускага нарыса, асвятлялася творчасць К. Чорнага, П. Пестрака, Ул. Корбана, А. Міронава. Прарэцэнзаваны многія кнігі рускіх пісьменнікаў рэспублікі, а таксама кнігі беларускіх пісьменнікаў, выдадзеныя на рускай мове. У якасці аўтараў тут выступаюць крытыкі і літаратуразнаўцы Я. Казека, А. Кучар, Н. Пашкевіч, В. Бурносаў, Г. Бярозкін, Я. Герцовіч, Ю. Канэ і многія іншыя. У гэтым аддзеле зноў жа можна сустрэць прадстаўнікоў нашай моладзі, такіх, напрыклад, як П. Шаблінскі, П. Дзюбайла, Г. Войцік, М. Стральцоў.

Вялікія планы ў часопіса на будучае. Мы маем у сваім партфелі некалькі буйных празаічных твораў. Гэта — аповесць Д. Уксусава «Я — твой друг» аб жыцці і працы маладых рабочых, аповесць Н. Навасёлавай, у якой узнімаецца тэма выхавання моладзі. З новымі творамі выступяць пісьменнікі Б. Бур'ян, П. Валкадаеў, Г. Папоў, П. Шасцерыкоў, А. Лазнявы.

Савецкая краіна знаходзіцца напярэдадні знамянальнай падзеі ў жыцці партыі і народа — XXII з'езда КПСС. З'езду будаўнікоў камунізма мы прысвячаем цалкам пяты нумар часопіса. Яго матэрыялы раскажуць чытачу аб слаўных справах савецкіх людзей, якія пракладваюць шляхі ў заўтрашні дзень чалавецтва.

Яўген ВАСІЛЁНАК,
рэдактар часопіса.

## 4
## 1961

### ЗМЕСТ



М. БРАТУШЭНКА

# Першае заданне

*Аўтар аповесці «У лясах гараць кастры», з якой узяты гэты ўрывак, быў камандзір партызанскага атрада асобага прызначэння, які дзейнічаў у гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Віцебскай і іншых абласцей Беларусі. У аповесці падаюцца сапраўдныя факты і падзеі, у большасці выпадкаў захаваны імёны і прозвішчы дзеючых асоб.*

Ішлі строга па зададзенаму азімуту. У аднастайны шум лесу ўрывалася хлюпанне ботаў. Зрэдку хто-небудзь правальваўся па пояс у падводныя ямы. Ледзяная вада абпякала цела.

У кожнага за спіною быў цяжкі груз: тол, міны, узрывальнікі, патроны, гранаты.

Раптам цемру ночы прарэзалі трасіруючыя кулямётныя чэргі. Гэта з боку фронту пачалася беспарадкавая страляніна: так было дамоўлена з камандаваннем батальёна, на ўчастку якога пераходзілі лінію фронту. Пад шум бою партызаны хуткім маршам прайшлі небяспечную зону праціўніка і паглыбіліся ў яго тыл.

Світанне застала атрад кіламетраў за трыццаць ад лініі фронту. Да раніцы абавязкова трэба было перайсці чыгунку Віцебск—Невель.

Злева, прыкладна за кіламетр, — станцыя Езярышча.

Ударнай групе загадана заняць насып і забяспечыць пераход атрада праз чыгунку.

— За мной, бягом марш! — скамандаваў Дзмітрый байцам.

І толькі залеглі на насыпу, як з боку станцыі паявілася некалькі салдат праціўніка. Заўважыўшы калону, яны спыніліся... А тым часам байцы спакойна пераходзілі палатно чыгункі.

Нямецкая ахова так і не адважылася страляць.

Байцы брылі па пояс у вадзе. Калі паглыбіліся ў лес, Дзмітрый выбраў сушэйшае месца, і атрад спыніўся на прывал.

Нагляд за чыгункай не спыняўся ні на хвіліну. Праз кожныя паўгадзіны па насыпу праходзілі патрулі праціўніка, іншы раз спыняліся ля невялікага чыгуначнага моста і стралялі ў паветра.

Чырвонае сонца скочвалася за далягляд. Змяркалася. Плотнікаў выклікаў да сябе камандзіра групы падрыўнікоў Пятра Сакалова і загадаў узарваць чыгуначны мост.

Пётр Сакалоў, Ільін і Буданцаў пайшлі на выкананне задання. Байцы між тым рыхтаваліся да паходу: падганялі да спіны рэчавыя мяшкі, пераабуваліся, тужэй падцягвалі папругі, правяралі зброю.

Не чакаючы вяртання групы Пятра Сакалова, атрад пайшоў далей.

— Як, Дзмітрый Мікалевіч, думаеш, выканае Сакалоў першае заданне?—спытаў Бычок.

— Усё будзе залежаць ад хуткасці дзеяння,—сказаў Дзмітрый задуменна. — Месца сустрэчы з атрадам намечана. Цяпер байцы ідуць і чакаюць, калі пачуецца выбух.

— Так, ты маеш рацыю, — адказаў Бычок.

Нарэшце дрыгва скончылася, ісці стала лягчэй.

— Прывал!—скамандаваў Плотнікаў, — тут дачакаемся групы Сакалова. Можна раскласці агні.

Начную цішыню раптам скаланула вельмі моцны выбух. Усе ўскочылі...

Языкі полымя ад кастроў асвятлялі ўсхваляваныя твары байцоў і камандзіраў. Усе глядзелі ў бок чыгункі, дзе Пётр Сакалоў і яго таварышы ўзарвалі мост.

— Та-ак! Вось гэта дык выбух! Малайцы хлопцы! — чуліся радасныя галасы.

— Таварышы! Захоўвайце цішыню!—загадаў Плотнікаў.

І пацягнуліся хвіліны чакання.

«Як там яны, ці выйдуць на нашу паляну, ці абмінуць патруль?» — думаў Дзмітрый. Але трывога была дарэмнай. Байцы шчасліва прыйшлі ва ўмоўленае месца.

— Таварыш камандзір, заданне выканана! — далажыў Сакалоў.

— Малайчына! Сядай! Расказвай!

...Раніца. Прамені сонца, прабіваючыся праз гушчар лесу, асвятлялі дрэвы, паваленыя бураю. Мутна паблісквала вада ў гнілых балачынах. На прагалінах сям-там відаць былі пралескі. А вось і леташнія журавіны, хоць лапатаю грабі!

«Як у казцы!» — думаў Дзмітрый, гледзячы абапал.

Зігзагападобным ланцугом расцягнулася паходная калона. Яна ішла ўсё далей і далей у тыл праціўніка...

Недалёка ад станцыі Дрэтунь, ва ўрочышчы Лебядзіны Мох, атрад спыніўся. Ладзілі буданы, нацягвалі палаткі — паўзводна, аддзяленнямі, групамі.

* * *

А праз гадзіну да агню, дзе сабраліся партызаны, падыйшоў камандзір атрада Плотнікаў. Ён падняў руку, і ўсе змоўклі ў чаканні.

— Таварышы! Камандаванне вырашыла накіраваць на заданне Марчанку з яго падраздзяленнем і два ўзводы нашага атрада.

— Як гэта, таварыш камандзір?! — спытаў Рабенка незадаволеным голасам.

— Што вы хочаце сказаць, таварыш Рабенка?

— Я хацеў спытаць, чаму не ідзе наш атрад?

— Ён хацеў спытаць, чаму яго не бяруць, — кінула рэпліку Аня Цюленева.

— Усяму свая чарга, таварышы! Будзе час, і вы таксама пойдзеце на заданне, — усміхнуўся Плотнікаў. Ён пастаяў крыху і пайшоў да сябе ў палатку.

— Хто такі Марчанка? — абступіўшы Рагожына і Гулевіча, пыталіся байцы.

— Старшы палітрук. Застаўся ў акружэнні. Ён ведаў некалькі надзейных таварышаў з ліку ваеннапалонных на станцыі Дрэтунь і ў мястэчку Труды, з якімі і дамовіўся дзейнічаць сумесна. Разведка ўстанавіла сувязь з Марчанкам, і яму прапанавалі арганізаваць мясцовы атрад. Цяпер у яго, здаецца, ужо каля ста чалавек.

— А як жа мы да гэтага часу не ведалі?

— Э-э... Усё будзеш ведаць, рана пастарэеш,—сказаў Гулевіч і насунуў на вочы Рабенкі пілотку.

— Фролаў, Цюленева і Рабенка, вас выклікаюць да камандзіра!—перадаў дзяжурны па лагеру.

— Што б гэта магло быць? — спытаў Фролаў.

— Ідзі, там даведаешся, — адказаў дзяжурны.

Калі ўвайшлі ў штаб атрада і далажылі, дык убачылі, што там ужо сядзіць камандзір узвода Рагожын.

— Заўтра з раніцы вы пойдзеце на чыгунку да станцыі Алешчы,— растлумачыў Плотнікаў увайшоўшым. — Павядзе вас таварыш Святлоў, ён па гэтых месцах хадзіў, ведае людзей, якія вам спатрэбяцца для выканання задання. Вось, здаецца, і ўсё.

— Зразумела, таварыш камандзір!—адрапартаваў Святлоў. — Дазвольце ісці?

— Ідзіце.

Калі яны выйшлі, Святлоў і Рагожын распарадзіліся:

— А цяпер — спаць, спаць!

Рабенка ляжаў на падсцілцы з хвоі, падклаўшы рукі пад галаву. Як доўга ён спаў, — не памятае. Ні то ў сне, ні то сапраўды пачуў знаёмыя галасы:

— Трэба будзіць.

— Няхай спіць, яшчэ рана.

— Мы не паспеем сабрацца!

Ён устаў і выйшаў з палаткі.

Хутка ўсе чацвёра стаялі ля склада і атрымлівалі ўзрыўчатку, капсулі, дэтанатары, міны.

— Станавіся! — пачулася каманда.

Дзмітрый падыйшоў да строю. Рагожын далажыў, што група гатова ісці на выкананне баявога задання.

Пайшлі... Вецер, разганяючы хмары, кідаў у твар халаднаватыя кроплі дажджу. Дрыгва аж хадзіла пад нагамі. Каб не праваліцца, ішлі далекавата адзін ад аднаго, абапіраючыся на доўгія кіі.

Іншы раз вада даходзіла да пояса, і тады здавалася, што ўваходзіш у возера, потым зноў станавілася мяльчэй.

— Ніколі не думаў, што на зямлі можна адчуваць сябе так няўпэўнена, — першым парушыў цішыню Рагожын. — І як гэта ты, Іваноў, ведаеш, куды трэба ісці?—звярнуўся ён да правадніка, які крочыў упэўнена і шпарка.

— Як жа мне не ведаць? Я тут, у гэтых месцах, нарадзіўся! Цішэй, таварышы! Хутка — чыгунка.

— Іваноў, вы на чыгунку не пойдзеце. Днём вас могуць пазнаць, ды і час вам вяртацца. Трэба, каб у час выбуху вы былі ў гарнізоне, на вачах у немцаў... Зразумела?

Святлоў, Рагожын, Рабенка і Аня моўчкі паглядзелі ўслед адыходзячаму Іванову.

Асцярожна ступаючы, група накіроўвалася да чыгункі.

Падышлі да ўзлеску. Спыніліся. Наперадзе відаць была чыгунка.

Слых улавіў набліжэнне цягніка.

— Чуеш? — прашаптаў Рагожын, сціскаючы да болю руку Валодзі.

Гул нарастаў. З-за павароту паказаўся састаў.

«Хоць бы не пралічыцца!» — была неадчэпная думка. Цяжка дыхаючы, абліваючыся потам, залеглі ў чаканні.

Перад імі праз некалькі метраў — невысокі насып і халодная сталь рэек.

— Наперад! — загадаў Святлоў. Твар яго зрабіўся вельмі бледным.

Сяргей, Аня і Валодзя ўскочылі, напружваючы ўсе сілы, кінуліся да палатна... Да сінявы ў пальцах сціснуў другі канец шнура Вася. Сэрца схаладзела.

— Хутчэй, хутчэй, хутчэй! — паўтараў Святлоў.

На палатне — тры байцы. Вось яны кінуліся з пуці пад адхон. Потым ускочылі і пабеглі з усяе моцы.

Выбух... Грукат...

Са свістам ляцелі абломкі, узнятыя хваляй выбуху. Састаў нібы паламала напалам. Паравоз і два вагоны пакаціліся далей, а астатнія вагоны з трэскам наскоквалі адзін на адзін, павольна ўзнімаліся на дыбкі і падалі пад адхон.

**Пераклад з рускай мовы.**

Г. БЕРНАСЕВІЧ

# І прыйшла ў школу вясна

**УРЫВАК З АПОВЕСЦІ «ВЕЦЕР З ПАЛЁЎ»**

Веснавое сонца заглядае ў акно.

У Лілі ўрок у шостым «Б» класе. Паглядаючы ў бок рослага Сцяпана Жолуда, якому не сядзіцца на месцы, яна тлумачыць:

— Дзеяслоў, дзеці, мае тры лады: абвесны, загадны, які выказвае загад або просьбу, і ўмоўны. Сёння мы і разгледзім, як утвараецца ўмоўны лад...

Пад канец урока яна пачынае апытваць вучняў, стараючыся замацаваць пройдзены матэрыял. З адказаў відаць, што дзеці яе зразумелі. Нават самая маленькая ў класе Каця Іванова упэўнена адказвае:

— Каб утварыць умоўны лад, да дзеяслова трэба дадаць часціцу «бы».

— Добра, Каця, сядай, — гаворыць Ліля. — Жолуд, прывядзі прыклад.

Жолуд паспешна ўскоквае і непаразумена глядзіць на настаўніцу.

— Прывядзі прыклад дзеяслова ўмоўнага ладу, — паўтарае Ліля.

Выцягваючы шыю, Жолуд прыслухоўваецца да ціхага шэпту, што ідзе з задніх парт, потым гаворыць:

— Эх, кабы на цветы да не морозы...

— Ну, і што? Дзе тут умоўны лад?

Жолуд маўчыць.

— Што трэба дадаць да дзеяслова, каб утварыць умоўны лад? — цярпліва дапытваецца Ліля.

Жолуд натужна моршчыць лоб і раптам узрадавана дадае:

— ...и зимой бы цветы расцветали...

Клас дружна рагоча. Жолуд спалохана моргае і, стараючыся паправіцца, хутка паўтарае:

— Эх, кабы на цветы да не морозы, и зимой бы цветы расцветали...

Ліля з дакорамківае галавой.

— Ох, Сцяпан, Сцяпан! Бачыш, усё-такі ў цябе добрая памяць. Мы гэты верш даўно вучылі, а ты яго і зараз помніш. Ды толькі гэта нам сёння не трэба. А ты ж мог бы вучыцца...

— Ды што там, — збянтэжана гаворыць Жолуд,—усё роўна на другі год застануся. А з новага я, ведаеце, як вазьмуся! — запэўняе ён. — Толькі вазьміце ў свой клас, Людміла Сяргееўна...

— У маім класе табе спуску не дадуць, — гаворыць настаўніца, гледзячы ў акно, дзе яе пяцікласнікі займаюцца фізкультурай.

Фізрук паказвае ім новыя практыкаванні на турніку, і Ліля сама сабе адзначае, што ён спрытны і дужы. Паглядзела б на яго зараз Дуся...

На перапынку, не зайшоўшы ў настаўніцкую, яна выходзіць на ганак.

Неба веснавое, яснае, развінулася ўшыркі да цёмнай палоскі лесу. Зялёная рунь чаргуецца са стужкамі ўзаранай зямлі. Натужна гудуць трактары. Вакол школы пярэстыя хусткі дзяўчынак, чуюцца радасныя галасы хлапчукоў.

Звіняць рыдлёўкі, лейкі — і ўсё гэта, калі прыслухацца, зліваецца ў адну суцэльную мелодыю.

Ліля стаіць прыслухоўваючыся, і лёгкі ветрык з палёў даносіць да яе пах нагрэтай сонцам зямлі.

На вільготных градках ужо цягнуцца да сонца зялёныя парасткі ранняй капусты. Варвара Сцяпанаўна, з запэцканымі рукамі, жмурыць свае зеленаватыя вочы і, усміхаючыся, гаворыць:

— З гэтым агародам вечна адно смецце...

«Сфатаграфаваць бы яе так»,— думае Ліля, гледзячы на трошкі загарэлы твар і белыя ва ўсмешцы зубы.

— Як вы толькі паспяваеце, — здзіўлена гаворыць Ліля, — бо ў вас жа дома таксама агарод і двое дзяцей?

— А я і сама не ведаю,— весела адказвае Варвара Сцяпанаўна і, махнуўшы рукой, ужо бяжыць у другі канец агарода, дзе вучні прапалваюць саджанцы яблынь.

Да Лілі падыходзіць Міколка Саўчук і, паглядзеўшы па баках, таямніча гаворыць:

— Людміла Сяргееўна, мы там у канаве кола знайшлі. Вялізнае! Калі прыцягнуць, першае месца ў школе па металалому возьмем.

— Добра, — гаворыць Ліля, — пасля ўрокаў паглядзім.

Коля спаважна, павольна, ідзе да хлапчукоў і, часта размахваючы рукамі, нешта ім гаворыць. «Адразу відно, важак», — усміхаючыся думае Ліля.

Пасля ўрокаў, калі ўсе разыходзяцца, яны ідуць глядзець знаходку. Міколка, забыўшыся на сваю спаважанасць, бяжыць наперад. Нахіліўшыся, ён раскідвае галінкі і сухую траву, і Ліля бачыць два вялікія чыгунныя колы, заіржавелыя і старыя. Бадай, яны ляжаць тут яшчэ з вайны і зараз нават цяжка вызначыць: ад танка яны, ад трактара ці ад іншай якой машыны. Яны ўраслі ў зямлю, праз якую прабіваюцца бледныя парасткі маладой травы. І Лілі раптам здаецца, што гэта не колы, а чыгунныя чашы.

— Дзеці, — усхвалявана гаворыць яна, — калі іх адсюль перанесці ў школу і паставіць з абодвух бакоў ганка? А? Як вы думаеце?

Яна глядзіць на вучняў. Яны дапытліва глядзяць на настаўніцу, відаць, няясна ўяўляючы, што яна прапаноўвае. У вачах Міколкі Саўчука дрэнна схаваная нецярплівасць. І раптам, уважліва зірнуўшы на колы, ён пераводзіць погляд на настаўніцу і гаворыць:

— Разумею! Паставіць як помнік?!

— А ў сярэдзіне пасадзіць кветкі... — падхоплівае Ніна Алешына.

— І пафарбаваць, — заключае



*Малюнкі М. Бельскага да аповесці «Вецер з палёў».*

Лена Краўчук. — Кола, вядома, а не кветкі, — тлумачыць яна.

Дзеці ажыўлена абмяркоўваюць новую ідэю, а Ліля, гледзячы на іх, радасна ўсміхаецца. Некалькі дзён увесь клас ходзіць з выглядам змоўшчыкаў. На перапынках дзеці таямніча перагаворваюцца паміж сабой, а Міколка Саўчук, захоплены новай ідэяй, дакладвае:

— Фарбу дасталі, Людміла Сяргееўна, белую. Толькі пэндзляў няма...

Ліля абяцае дастаць. Толькі дзе іх узяць? У Варвары Сцяпанаўны ёсць, яна з дзецьмі фарбуе і надпісвае фанеркі для школьнага агарода! Але ж яна абавязкова пацікавіцца, навошта спатрэбіўся пэндзаль Лілі. А Ліля не хоча раскрываць сакрэт раней часу: раптам нічога не выйдзе з іх задумай. «Лепш вазьму ў Сцепаніды», — вырашае яна.

Колы ўжо выцягнулі з канавы, ачысцілі ад зямлі, і яны цяпер ляжаць недалёка ад школы, у яры, прыкрытыя леташнім лісцем. Кожны дзень пасля ўрокаў дзеці корпаюцца вакол іх, стараючыся сцерці іржу. Сярод яе маленькіх рухавых пяцікласнікаў маячыць доўгая фігура Сцяпана Жолуда.



Ліля здзіўляецца: «Трэба ж, перавёў ужо сябе з шостага ў пяты...» Калі яна падыходзіць да вучняў, Жолуд хутка падымаецца і, апусціўшы вочы, моўчкі мятлашыць бруднымі пальцамі гузік на пінжаку.

Міколка Саўчук паспешліва гаворыць:

— Сцяпан нам дапамагае, а то яны... цяжкія, гэтыя колы.

Хаваючы ўсмешку, Ліля ківае галавой, і Сцяпан зноў бярэцца за кола. Міколка камандуе:

— А ну, Сцяпан, павярні крыху, яшчэ... Вось так!

Сцяпан паслухмяна выконвае ўсё, што яму гавораць.

«Бач, стараецца!» — задаволена адзначае Ліля.

Праз некалькі дзён дзеці застаюцца пасля ўрокаў, каб завяршыць пачатае. З абодвух бакоў ганка ўкопваюць у зямлю два невысокія драўляныя слупы. Вельмі цяжка падняць і надзець на іх чыгунныя колы. Аднак працы ніхто не пакідае. Атрымліваецца пакуль што не вельмі прыгожа: на свежаабструганых чурбаках — іржавыя колы. Але ўсе ўжо бачаць, што атрымаецца іменна так, як яны задумалі.

У сярэдзіну насыпаюць чарназёму, і дзяўчаткі беражна садзяць кволыя сцяблы настурцыі і духмянага гарошку. Хлопчыкі фарбуюць. І адразу ж, проста на вачах, іржавыя колы на драўляных слупах ператвараюцца ў фігурныя вазы, якія блішчаць на сонцы вільготнай маслянай фарбай. Твары дзяцей радасна ззяюць.

— Ох, і прыгожа! — радуецца Ніна Алёшына.

— Як у горадзе ля Дома піянераў, — прыжмурваючыся, прыкідвае на вока Лена Краўчук.

— Параўнала!.. — абураецца Міколка Саўчук. — Там з гліны злепленыя, а ў нас чыгунныя, з колаў! Можа, на гэтай машыне герой змагаўся... Гэта ж, гэта... Увогуле, у нас лепш, — заключае ён, не могучы выказаць свае пачуцці. — Праўда, лепш, Людміла Сяргееўна?! — звяртаецца ён да настаўніцы.

— Вядома, — сур'ёзна гаворыць Ліля. — У нас лепш, таму што ўсё гэта мы зрабілі сваімі рукамі і потым... Ой, якая ж школа наша стала прыгожая! — усклікае раптам яна, забыўшыся на «настаўніцкі» тон.

Яны вясёлым гуртам збягаюць з узгорка і яшчэ раз, на развітанне, паглядзеўшы на сваю работу, дамаўляюцца: да заўтра — нікому ні слова!

**Пераклад з рускай мовы.**

Ал. ІГНАЦЕНКА

# РОДНИК

**На нашей улице, у клёна**
**развесистого, как шатер,**
**с хрустальным звоном**
**ключ студёный**
**бежит,**
**решителен и скор.**
**А от него**
**ручей проворный**
**кудельно вьется голубой,**
**спешит он**
**к заводи озёрной,**
**чтоб слиться там**
**с большой водой.**
**Чтоб там,**
**через окно плотины**
**рвануться с рёвом**
**в дальний путь,**
**и в руслах рек,**
**средь вод глубинных**
**голубизной своей блеснуть.**
**Но не беспечно поскитаться,**
**а поработать,**
**пользу дать:**
**турбинами электростанций**
**заклокотать, загрохотать...**

Ф. ЯФІМАЎ

* * *

От детства осталось: просторов привольная ровность,
Деревня саманная, луг, размалёванный пёстро.
Река — воробью по колено, песок, как жаровня,
И, главное, лес — от лесов отколовшийся остров.
Его мы любили, как младшие старшего брата,
Как друга, которому тайное можно рассказывать...
В нём летом клубилась тяжёлая смесь ароматов,
Густа, — зачерпни и, как мёд, на горбушку намазывай.
По листьям и веткам бродили дрожащие блики,
Дремало в прохладе грибов белоногое войско,
На стеблях мохнатых висели огни земляники,
Светились крыжовника шарики, словно из воска...
Мы брали с собой туески для капризной малины,
За пазуху редьку и хлеб ноздреватый совали.
Мы в лес окунались, в котором кузнечики длинно
Из тоненькой жести весёлые марши ковали,
В сосну непричесанный дятел вколачивал гвозди,
Чтоб вешать, наверно, портреты любимой дятлихи,
Друг дружку малиновки звали приветливо в гости,
И травы шуршали. И было таинственно, тихо.
Но, нами разбуженный, дуб по-мужски неумело
Нам вихры разглаживал множеством листьев-ладоней,
Берёза на тропке старалась не пачкать нас мелом.
И слышался шелест привета в разлапистом клёне...
Когда из жары прокалённого солнцем вагона
Теперь окунешься, как в речку, в лесную прохладу,
Знакомая ель поглядит на тебя отчужденно,
И сердце сожмётся от лёгкой, неясной досады.
И чтоб доказать, что ты всё ещё тот же парнишка,
Что к старому другу не стал равнодушным и грубым,
Ты, в дятла стучащего бросив еловую шишку,
Начнёшь кувыркаться под мудрым задумчивым дубом.

# ДВОЕ МАЛЫХ

Зоя ГУСЕВА

### КАЗКА

Жылі-былі двое малых. Адзін быў зялёны з белым пузцам у крапінкі — і звалі яго Квак. Другі быў з залатымі валасамі і блакітнымі вачыма — і звалі яго Андрэйкам.

Вось і ўсё, чым адрозніваліся малыя адзін ад аднаго. А ў астатнім яны былі вельмі падобныя.

Калі Андрэйка працягваў руку да грубкі і яму казалі: «Гэта пячэцца!» — ён усё роўна цягнуўся да агню і... абпякаўся.

Калі мама не пушчала Квака гуляць, ён уцякаў і...

Пра гэта ўласна і будзе ўвесь расказ.

...Андрэйка і Квак пазнаёміліся ўлетку. У маленькай зарослай сажалцы.

— Прывітанне, жабянятка! — сказаў Андрэйка. — Давай знаёміцца! Мяне завуць Андрэй. А цябе як? Чаму ж ты маўчыш? А-а, я ведаю! Табе мама не дазволіла тут купацца, і ты баішся, што яна пачуе твой голас і забярэ цябе дахаты! А я — не баюся! У мяне — дзядуля!

Квак сядзеў на бліскучым гарлачыкавым лісце і вылупляў на Андрэйку вочы.

Андрэйка яму адразу спадабаўся. Хоць бы з тае прычыны, што жабянятка ніколі не бачыла хлапчукоў у гэтай сажалцы.

Квак хацеў быў ужо сказаць: «Прывет!», але ўспомніў, што ў роце ў яго камар!

Таму ён нічога не сказаў.

А ў гэты час да іх падышоў Андрэйкаў дзядуля. І такі сярдзіты, што Квак не на жарты спалохаўся. Ён ледзве паспеў даць нырца і адплысці як далей.

— Ах ты, жабяня! — сказаў дзядуля, выцягнуў Андрэйку з сажалкі і павёў дахаты.

— Да пабачэння! Мы з табой яшчэ сустрэнемся! — крыкнуў Андрэйка жабянятку. — Толькі скажы, як цябе завуць?..

— Квак! — квакнула ўслед Андрэйку жабянятка і... выпусціла камара. Але яно не пашкадавала пра гэта, хоць камары вельмі смачныя. Затое яно пазнаёмілася з гэтым смешным чалавечым жабяняткам.

Улетку яны больш не бачыліся. Андрэйка паехаў з белага доміка з чырвоным дахам, што стаяў ля сажалкі.

І вярнуўся толькі позна ўвосень, калі сажалка была ўсыпана жоўтым і чырвоным лісцем. Мама-жаба ўжо не выпушчала Квака гуляць. Яны жылі на дне сажалкі, у водарасцях. Там у іх былі мяккія пасцелькі, і мама гаварыла жабянятку, што ім пара засынаць на ўсю зіму да вясны.

Але жабянятка не хацела засынаць. Яно варочалася ў пасцельцы і ўвесь час енчыла:

— Ма-а-ма, раскажы мне ка-азачку... Ма-а-ма, пачухай мне спі-і-нку... Ма-а-ма, вось ты кажаш, што нават дрэвы спяць, а чаму ж стары дуб не скінуў сваё лісце? Ён што, не спіць?

Але мама ўжо спала. Тады жабянятка ціхенечка вылезла з пасцелі і наважыла само пайсці паглядзець, ці заснуў стары дуб?..

...Усю ноч за вакном падаў чысты пушысты снег. Лужыны на дарозе прамерзлі да дна, а сажалка зіхацела бліскучым ільдом.

Андрэйка і дзядуля ў гэты час спалі і ні пра што не здагадваліся. Ім сніліся блакітныя незабудкі ля сажалкі і белыя рамонкі ўздоўж сцежкі каля лесу.

А ўранку яны прачнуліся і ўбачылі, што снег белымі рамонкамі засыпаў і сцежку, і лес, і сажалку. Ярка свяціла сонца, і яны пайшлі гуляць.

Дзядуля паказваў Андрэю сляды на снезе:

— Вось прабег зайчык... А гэты акуратны ланцужок — след ліса...

Андрэйка, як сапраўдны паляўнічы, ішоў асцярожна і пільна глядзеў навакол. І калі праходзілі паўз сажалку, ён заўважыў незвычайны прыгожы след. Як карункі. І кругамі, кругамі... А пасярэдзіне нешта чарнела. Ён падышоў бліжэй і ўбачыў Квака.

Жабянятка зусім замерзла — ледзве варушыла лапкамі...

— Дзядуля!— заплакаў Андрэйка. — Гэта маё знаёмае жабянятка! Гэта Квак!

Квак пачуў, што яго кліча хлопчык і паварушыўся. Ён хацеў сказаць: «Прывітанне, Андрэйка! Вось мы і сустрэліся...»

Але нічога не сказаў, бо вельмі ўжо замёрз. Так замёрз, што калі да яго падышоў Андрэйкаў дзядуля, Квак не здолеў уцячы.

А прынамсі, ён добра зрабіў, што не ўцёк: у дзядулевых далонях — цёпла. «Які ён шчаслівы, гэты Андрэйка — ён можа заўжды грэцца ў дзядулевых далонях...» — уздыхнуў Квак і паспрабаваў падскочыць.

Вось тады дзядуля і скамандаваў унуку:

— Неадкладна рыхтуй выратавальную экспедыцыю! Выйшлі верталёты да таго месца, дзе ў снезе чарнее пляма! Прабівай палонку!

Андруша палкай праламаў лёд ля краю сажалкі, і яны адпусцілі жабянятка дамоў...

А ўвечары, калі ў печы па паленах дроў скакаў вясёлы рыжы агонь, дзядуля расказваў Андрэйку, чаму замёрз Квак.

— ...Вось што значыць самому правяраць, ці пячэцца агонь... — скончыў дзядуля свой расказ. — А цяпер табе пара спаць, — дадаў ён, але ўбачыў Андрэйкавы сумныя вочы, усміхнуўся і сказаў: — Вы яшчэ сустрэнецеся. Улетку. Калі белагаловыя, у жоўтых цюбецейках рамонкі будуць глядзецца ў сажалку, яны, вядома, убачаць там цябе і Квака. Але пакуль вы будзеце сустракацца толькі ў сне, бо зіма снежная, марозная, доўгая-доўгая...

**Пераклад з рускай мовы.**

# БАЯВЫМ СЯБРАМ



«Партызанская Масква», «Другая Масква»... Колькі беларускіх вёсак, партызанскіх, недасягальных для фашыстаў, называліся так у час вайны. На Глусчыне так называлі—партызаны з гордасцю, немцы і паліцаі з нянавісцю і пагрозай — вёску Крукаўшчыну. Гэтую мясцовасць кантралявала і абараняла брыгада імя Пархоменкі. Удзень і ўначы ішлі праз Крукаўшчыну на «варшаўку», на «жалезку» вясёлыя і смелыя хлопцы, якіх жыхары вёскі ведалі паімённа: Вася, Мікола, Мікіта... Ішлі «храпкоўцы», «шваякоўцы», «міцькаўцы», «ціхаміраўцы», «лівенцаўцы». Але не заўсёды вясёлыя былі хлопцы. Іншы раз, вяртаючыся з бою, прывозілі забітых сяброў. І тады стаялі людзі ў канцы вёскі, дзе ўздоўж шляху працягнуліся партызанскія магілкі, плакалі жанчыны над чужымі сынамі, успамінаючы сваіх. Скупыя словы, развітальныя залпы... І зноў, ідучы ў бой, праходзілі партызаны каля тых, за каго кляліся помсціць ворагу.

Цыганок, Кожыч, Вінградаў, Іваноў, Носаў, Яфіменка, палешукі, валжане, сібіракі—колькі іх, што аддалі жыццё ў беларускіх лясах, каб жыла Радзіма.

І вось, амаль праз дваццаць год сабраліся ў Крукаўшчыне былыя партызаны, каб разам з жыхарамі вёсак Глусчыны адкрыць помнік сваім баявым сябрам. Не адразу былыя таварышы па зброі пазнаюць адзін аднаго.

— Ды ты ж хіба такі быў? Сокал на кані. А цяпер? І як ты толькі ў сваю машыну ўлазіш?

— А ты лепшы? Хто гэта, братка, твой зайздросны чуб так добра прапалоў?

Гэта ўсё пра знешнасць. Але ў такі дзень чалавек і ў сябе самога глыбей загляне. Ці не пачаў старэць душой? І, глядзі, што адкіне нешта дробязнае, непатрэбнае, задумаецца аб галоўным, важным для ўсіх.

Некалькі тысяч чалавек сабраліся на адкрыццё помніка партызанам атрада імя Кірава...

Жывой здавалася гранітная жанчына з каменнымі кветкамі: жывой яе рабіла тая хваля чалавечых пачуццяў, што білася каля яе ног. І асабліва таму, што ўсе бачылі маці Цыганка, маці Валодзі Кожыча, якія прынеслі жывыя кветкі, мацярынскія слёзы, гордасць мацярынскую на магілы сыноў сваіх.

...Сакратар Глускага райкома партыі Гняцько, былы камбрыг Львоў, былыя партызаны Шарамет, Паўлава, Татур гаварылі з трыбуны аб тым, што нялёгкім было змаганне за нашу свабоду, аб тым, якое гэта вялікае шчасце—мір, які трэба мацаваць сваёй працай. І вельмі цёпла, шчыра гаварылі былыя партызаны аб людзях Глусчыны, Акцябршчыны, якія так многа вынеслі і так многа змаглі.

**Алесь АДАМОВІЧ.**

# ЗА КРУГЛЫМ СТАЛОМ І НА ЭКРАНАХ

Удзельнікі фестывалю на працягу трох дзён праводзілі ў Доме літаратараў творчую дыскусію на тэму «Мастак і час».

Дыскусію адкрыў савецкі кінарэжысёр С. Герасімаў. Ён гаварыў аб велізарнай адказнасці мастака перад эпохай, перад народам, аб вельмі важнай ролі кіно, як сродку пазнання свету і актыўнай барацьбы за яго лепшы лёс.

— За мінулыя два гады, што прайшлі з часу першага фестывалю ў нашай сталіцы, — сказаў С. Герасімаў, — у жыцці народаў адбылося многа знамянальных падзей. За кароткі прамежак часу на геаграфічнай карце ўзнікла многа новых дзяржаў, якія паспелі прывезці на наш фестываль свае першыя кінатворы.

Адзначыўшы станоўчы характар пазнавальнасці сучаснага жыцця ў творах італьянскіх неарэалістаў, французскіх крытычных рэалістаў і амерыканскіх прагрэсістаў, С. Герасімаў асобна спыніўся на вялікай прагрэсіўнай ролі японскіх незалежных кінадзеячоў, якія паказалі карціну «Голы востраў» рэжысёра Канета Сінда.

Шведскі тэарэтык кіно Альмквіст імкнуўся ў дыскусіі абгрунтаваць «тэорыю», быццам бы развіццю кіно перашкаджаюць палітыка і камерцыя. Але савецкі кінакрытык Р. Юрэнеў, палемізуючы з Альмквістам, пераканальна даказаў, што кожны мастак павінен мець сваю ясную пазіцыю: або ён палітык, або камерсант — трэцяга не бывае. І толькі тыя мастакі, якія ставяць перад сабою не вузка камерцыйныя, а вялікія грамадскія задачы, могуць стварыць вялікае мастацтва.

Са змястоўным аналізам новых з'яў і тэндэнцый у сусветнай кінематаграфіі выступіў французскі кінакрытык Марсель Мартэн. Ён заклікаў больш рашуча і смела парываць са старымі канонамі драматызацыі апавядальнасці, пераходзіць да дакументалізму, які дазваляе паказаць з'явы жыцця так, што гледачу самому будзе лёгка зрабіць адпаведныя вывады.

Польскі гісторык і крытык кіно Ежы Плашэўскі, аналізуючы новыя элементы стылю, мовы кіно — падоўжанне мантажных кавалкаў, змяншэнне колькасці буйных планаў, адсутнасць рэзкіх пераходаў, — сцвярджаў, што яны выкліканы імкненнем наблізіць кінатвор да жыцця.

На другі дзень дыскусіі першым выступіў японскі рэжысёр Канета Сінда. Ён заявіў, што мастак не павінен назіраць чалавека на адлегласці, а паказваць яго душэўны ўнутраны стан. На яго думку, чалавека «выдуманага» аўтарамі трэба зрабіць жывым, рэальным з усімі ўласцівымі яму дадатнымі і адмоўнымі якасцямі. Мастака не выратуе ніякая тэхніка, калі ён не знойдзе формы для раскрыцця новага зместу.

З вялікай і змястоўнай прамовай на дыскусіі выступіў вядомы крытык і гісторык кіно Жорж Садуль (Францыя). Ён не згадзіўся са сваім суайчыннікам Мартэнам наконт дакументалізму; на яго думку, дакументалізм прыводзіць да фальшывага адлюстравання рэчаіснасці, і толькі лінія драматызацыі жыцця дае ў выніку прагрэсіўныя творы.

На дыскусіі выступілі таксама рэжысёр Р. Козінцаў (СССР), кіраўнік дэлегацыі кінематаграфістаў Ізраіля Гаўрыел Месеры, намеснік генеральнага сакратара ААН па інфармацыі Таварэс До Са і польскі гісторык, тэарэтык і крытык Ежы Цепліц.

Штодзённа з раніцы праводзяцца прэс-канферэнцыі дэлегацый, наладжваюцца прыёмы.

Конкурсныя прагляды тым часам ідуць штодзённа ў кінатэатры «Расія». Нашы кітайскія сябры паказалі свой поўнаметражны каляровы фільм «Сям'я рэвалюцыянераў». У ім гутарка ідзе пра лёс адной сям'і, у якой бацька, маці, а потым і іх дзеці ахвяравалі сваім асабістым шчасцем і нават аддалі сваё жыццё за рэвалюцыю, за перамогу камуністычнай партыі над здраднікамі з гамінданаўскай клікі.

Англічане прадставілі на фестываль вялікае шырокаэкраннае каляровае палатно «Працэс над Аскарам Уайльдам». У аснову гэтай карціны пакладзены гістарычныя факты трагічнага характару з жыцця вядомага англійскага паэта і драматурга, які стаў нявіннай ахвярай паклёпу з боку буржуазнага грамадства Вялікабрытаніі канца XIX стагоддзя.

На шосты дзень фестывалю яго сенсацыяй з'явілася карціна заходнегерманскага прагрэсіўнага рэжысёра Курта Гофмана «Здані ў замку Шпэсарт». Гэты рэжысёр добра вядомы нашаму гледачу па фільму «Мы вундэркінды», які паспяхова прайшоў на экранах нашай краіны. У апошнім сваім фільме Курт Гофман хоць некалькі завуаляваў сучаснасць адэнаўэраўскай Германіі, але пайшоў яшчэ далей, чым у творы «Мы вундэркінды».

У суботу, пасля ранішніх праглядаў, Міністэрства культуры СССР і Аргкамітэт Саюза работнікаў кінематаграфіі СССР наладзілі ў Георгіеўскай зале Вялікага Крамлёўскага палаца шырокі прыём для ўдзельнікаў фестывалю. Прыём прайшоў у духу прыязнасці і дружбы кінематаграфістаў усіх кантынентаў.

* * *

Прызнана ўжо, што другі Маскоўскі фестываль — самы шырокі і ў параўнанні з іншымі аглядамі кінамастацтва, якія штогодна праводзяцца ў розных краінах свету. Калі, напрыклад, параўнаць яго з апошнім фестывалем у Канах, то на Маскоўскім фестывалі амаль у два разы больш удзельнікаў і фільмаў, а масквічы, бадай, самыя лепшыя кіналюбы. Яны жывуць вясёлым рытмам фестывалю.

На вуліцах і плошчах горада, на фасадах аэрапортаў, гасцініц, кінатэатраў сцягі дзяржаў — удзельніц фестывалю, прывітальныя лозунгі і ўсюды ўжо знаёмая эмблема пад дэвізам: «За гуманізм кінамастацтва, за мір і дружбу паміж народамі».

Асабліва па-святочнаму ўпрыгожана Манежная плошча і будынак гасцініцы «Масква», дзе размясціўся штаб фестывалю і жывуць яго ўдзельнікі і госці.

У штаб фестывалю патокам ідуць прывітанні і добрыя пажаданні форуму кінамастацтва.

Нам давялося пагутарыць з віднейшым дзеячом дакументальнай кінематаграфіі, вядомым нідэрландскім кінарэжысёрам, членам журы Іёрысам Івенсам.

— Я, бадай, самы старэйшы з прыхільнікаў савецкага кінамастацтва,—кажа ён.— Я многа разоў бываў у Савецкім Саюзе, у другі раз удзельнічаю ў маскоўскіх фестывалях. Будзем спадзявацца, што і на гэты раз мы будзем весці шчырыя дыскусіі і гутаркі аб лёсе кінамастацтва і адказнасці перад гледачом.

Зараз у самым разгары працоўныя дні фестывалю. Кожны дзень трэба прагледзець тры паўнаметражныя і чатыры—пяць каротка-метражных карцін. Прагляды часта заканчваюцца далёка за поўнач.

Кожную раніцу фестывальныя госці едуць на экскурсіі, знаёмяцца з горадам. З Ленінскіх гор яны ўбачылі дзівосную панараму сталіцы. Навінкай для іх з'явіўся плавальны басейн на дзве тысячы чалавек, якога яшчэ не было ў дні першага маскоўскага фестывалю.

З другой палавіны дня пачынаюцца прагляды. У новым, цудоўным кінатэатры «Расія» прагледжаны ўжо дзесяткі мастацкіх і дакументальных фільмаў. Адны з іх, як «Голы востраў» (Японія) глыбока хвалявалі сваёй праўдай, другія прамільгнулі на экранах бясследна... Тым не менш хочацца глядзець усе навінкі сусветнага кінамастацтва для параўнанняў, аналізу, вывадаў.

А навінкі — штодзень. Іх паказалі ўжо Канада, Японія, Нарвегія, Цэйлон, Малі, ААР, Вялікабрытанія, Марока, Бельгія, Албанія, Ірак, ГДР, Швейцарыя, Югаславія... Залы кінатэатра перапоўнены.

Ролю кіно, як самага масавага і любімага народамі мастацтва ў наш час, цяжка пераацаніць. Фільмы, зробленыя прагрэсіўнымі майстрамі, якія смела сцвярджаюць, што ідэі міру і гуманізму не маюць граніц, даходзяць да сэрцаў простых людзей. І як жа ўдзячны гледачы тым мастакам, якія ў сваіх творах нясуць людзям святло дружбы, узаемаразумення і веры ў будучыню.

**П. ПАДБЯРЭЗСКІ,**
**спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**
Масква.



На гэтым здымку зняты ўдзельнікі другога Міжнароднага кінафестывалю ў Маскве, вядомыя кінаактрысы (злева направа) Джына Лолабрыджыда і Марыза Мерліні (Італія), Флавія Бурэф (Румынія), Сон Ен Ай (Карэя), Бланка Багданава (Чэхаславакія), Цэрмаа (Манголія).

Фота В. Масцюкова. Фотахроніка ТАСС.

# В. Я. ГАЛАЎЧЫНЕР



Памёр народны артыст БССР, пісьменнік Віктар Якаўлевіч Галаўчынер. Драматург, рэжысёр, педагог, ён шмат сіл аддаў развіццю савецкага тэатральнага мастацтва.

Віктар Якаўлевіч Галаўчынер нарадзіўся 28 чэрвеня 1905 года ў горадзе Мінску ў сям'і настаўніка. Скончыўшы ў 1926 годзе Беларускі дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва, ён доўгі час працаваў спачатку акцёрам, а потым рэжысёрам у тэатрах рэспублікі, выкладаў акцёрскае майстэрства ў Тэатральна-мастацкім інстытуце ў Мінску.

20-гадовым юнаком Віктар Якаўлевіч распачаў літаратурную дзейнасць. У 1925 годзе ён апублікаваў сваю першую п'есу «Гаўрош» па матывах рамана Віктара Гюго. Дзве п'есы В. Я. Галаўчынера — «Вялікадушша» і «Урок жыцця» былі ў свой час пастаўлены на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

У апошні час Віктар Якаўлевіч Галаўчынер быў галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага рускага тэатра ў Вільнюсе. За плённую і паспяховую работу ў гэтым тэатры яму было прысвоена ганаровае званне народнага артыста Літоўскай ССР.

Віктар Якаўлевіч Галаўчынер з'яўляўся членам КПСС. За поспехі ў сваёй працы ён быў узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны» і медалямі.

Мастак з вялікай культурай, з глыбокімі ведамі, Віктар Якаўлевіч Галаўчынер заўсёды быў сціплым у жыцці, добрым, чулым таварышам у калектыве, прынцыповым у мастацтве, нястомным у працы на карысць Радзімы. Такім і застанецца ён у нашай памяці.

**Міністэрства культуры БССР,**
**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР.**

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР паведамляе аб смерці члена Саюза пісьменнікаў, драматурга, народнага артыста БССР Віктара Якаўлевіча ГАЛАЎЧЫНЕРА і выказвае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Міністэрства культуры БССР з глыбокім жалем паведамляе аб раптоўнай смерці народнага артыста БССР Віктара Якаўлевіча ГАЛАЎЧЫНЕРА і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

# НАСТАЎНІК НЕ ПАДЗЯКУЕ

Гэтая кніга адрасавана пэўнаму колу чытачоў. У анатацыі выдавецтва, змешчанай на адвароце тытульнага ліста, сказана: «Гэта кніга дапаможа настаўніку, асабліва ў сувязі з перабудовай выкладання, з неабходнасцю актывізаваць працэс навучання». Тут жа паведамляецца, што кніга напісана «настаўніцай навагрудскай сярэдняй школы... на аснове шматгадовай практыкі выкладання рускай мовы».

Ніяк нельга сказаць, што выдавецтвы рэспублікі часта радуюць настаўнікаў літаратурай па канкрэтных пытаннях, звязаных з практыкай школьнага выкладання. Таму, пазнаёміўшыся з такой анатацыяй, чытач-настаўнік адразу ж купіць кнігу. Ды і як не купіць — у ёй жа вопыт работы настаўніцы рускай мовы, якая працуе ў Беларусі. Вопыт — шматгадовы. Вопыт па актывізацыі працэсу навучання ва ўмовах перабудовы работы школ. Дык гэта ж якраз тое, што трэба!..

Карацей кажучы, перад намі кніга Н. Лівенцавай «О некоторых приемах повышения эффективности преподавания русского языка», выдадзеная Дзяржаўным вучэбна-педагагічным выдавецтвам Міністэрства асветы БССР у 1961 г.

Той факт, што выдавецтва вырашыла выпускаць кнігі з вопыту работы настаўнікаў, трэба толькі вітаць. Вопыт работы лепшых настаўнікаў рэспублікі павінен быць здабыткам усіх працаўнікоў народнай асветы. Нельга не адзначыць і добрых намераў самога аўтара кнігі.

Настаўнік пачынае чытаць кнігу і...

На першай жа старонцы — такі «ўзор» сінтаксісу: «Первоочередная задача школы — научить наших учащихся правильно выражать свои мысли, помочь им (?) овладеть богатством, выразительностью языка...» Паразважаўшы, аб кім або аб чым ішла гутарка — што або хто хаваецца за словам «им» — «учащиеся» або «мысли», — крыху паморшчыўшыся, даруем аўтару недакладнасць. Чытаем далей, на старонцы 12:

«За урок поставлено восемь оценок, в том числе за индивидуальную работу». За якую індывідуальную работу? За чыю работу?..

Далей на гэтай жа старонцы: «Необходимость выделения темы «Обособление причастного оборота» на отдельный урок подсказано практикой». Тэма «выделяется»... «на отдельный урок» (?).

На наступнай старонцы нельга не абурацца такімі «перламі» стылю: «Проводя организационный момент, отмечая отсутствующих, **фронтально просматривая тетради** учащихся, **с целью освежения** в памяти того материала, по которому будет опрос, учитель предлагает учащимся открыть учебники и прочитать определенный параграф. **Это дает экономию времени на уроке,** ни одна минута не пропадает даром, а повторенное перед опросом **правило улучшает качество ответов учащихся».**

З кожнай новай старонкай чытач пераконваецца, што падобныя «агрэхі стылю» — характэрны спосаб перадачы думак аўтарам. «Прочно усваиваются учащимися лишь те знания, в приобретении которых он (?) принимал сам активное участие, а не являлся пассивным объектом обучения» (!); «...учитель при проверке ясно видит **картину пробелов в знаниях** каждого ученика»; «Чтобы избежать списывания и дать разбор, учитывая пробелы каждого ученика, учащимся даются разные предложения»... Вось тут і зразумей!

Чытаем далей. «Две-три минуты — и можно продолжать работу: усталость прошла, игра увлекла детей». Але як жа «продолжать работу», калі «игра увлекла детей»?.. «Иногда можно играть в анограммы: записываются слова в столбик, а потом из этих же (?) букв, которые входят в первое слово, составляется другое слово»... Або: «В **деле активизации** урока известную роль играет **занимательность,** но главная **сфера ее применения** — это внеклассная работа»... Што такое —«сфера применения занимательности»?!.

У такім «стылі» вытрымана ўся кніга: «Каждый ученик в свой учет заносит все слова, в которых он допустил ошибки»; «степень незнания правил пунктуации»; «на практике закрепляет навыки самостоятельного введения в предложение заданных случаев постановки знаков препинания»; «Ученики охотно остаются на такие занятия, потому что они не ущемляют их чувства человеческого достоинства» (?!).

Ці не даволі? Такіх і падобных «перлаў» у кнізе не абярэшся. Цяжка паверыць, што аўтар кнігі — выкладчык рускай мовы. Гэта ж парадокс: за чысціню і культуру мовы ў школе вядзе барацьбу чалавек, які не можа пісьменна выказваць свае думкі!

Настаўнікі рускай мовы, якія працуюць у школах нашай рэспублікі, павінны ўлічваць, што вучні вывучаюць адначасова і беларускую мову. Лепшыя педагогі накапілі вялікі вопыт выкладання рускай мовы ў беларускіх школах. Гэты вопыт, бясспрэчна, павінен стаць здабыткам усіх нашых настаўнікаў рускай мовы. На вялікі жаль, аўтар кнігі абмінула моманты спецыфікі выкладання рускай мовы ва ўмовах Беларусі.

Пры ўсім гэтым, мы бачым імкненне аўтара да пошукаў эфектыўных метадаў і прыёмаў у выкладанні рускай мовы. Бясспрэчна, што Н. Лівенцаву хвалюе такая важная праблема, як актывізацыя работы вучняў на ўроку, імкненне да таго, каб урокі мовы былі цікавымі, каб работа на ўроках захапляла вучняў. Як гэта важна! Ні для каго не сакрэт, што ўрокі мовы ў школе часта праводзяцца нудна, нецікава. Таму не дзіўна, што перадавых настаўнікаў не пакідае думка аб тым, каб вучні на ўроках граматыкі, правапісу, сінтаксісу працавалі з захапленнем.

Нельга не адзначыць, што Н. Лівенцава ў сваёй кнізе падымае шэраг важных праблем, звязаных з выкладаннем рускай мовы. Тут ёсць карысныя парады і рэкамендацыі па пытаннях складання рабочага плана настаўніка, граматычнага разбору, выкарыстання наглядных дапаможнікаў, праверкі вучнёўскіх сшыткаў, слоўнікавай работы і г. д. Пахвальнае імкненне аўтара падхапіць тое новае, што прапагандуе сучасная методыка, праверыць гэтае новае практычна і свой вопыт паведаміць калегам па працы. Праўда, не ва ўсіх раздзелах кнігі аднолькава поўна і шырока апісан вопыт работы аўтара. Найбольш цікавыя, на нашу думку, раздзелы, у якіх аўтар расказвае аб сваім вопыце арганізацыі індывідуальнай работы з вучнямі і пра вопыт слоўнікавай работы. У некаторых раздзелах прыводзяцца ўзоры заданняў вучням, цікавыя наглядныя схемы і г. д.

Але многае з карыснага патанае ў масе добра вядомых кожнаму агульных установак, накшталт: «Учитель не должен забывать, что каждый класс имеет свою, только ему присущую специфику». Або такія ісціны: «Очень важно, чтобы учитель на уроке видел, кто не понял материала урока, чтобы он стремился так или иначе активизировать внимание учащихся, сосредоточить его на изучаемом материале».

Чытач-настаўнік, пазнаёміўшыся з анатацыяй да кнігі, чакаў знайсці ў ёй апісанне цэлай сістэмы работы, а знайшоў толькі асобныя эпізоды ўласнага вопыту аўтара і агульныя, добра вядомыя ўстаноўкі.

Нам здаецца, і сам загаловак кнігі **«О некоторых** приемах...» ні да чаго не абавязваў аўтара. Сапраўды, аб кожным з прыёмаў, што зацікавілі Н. Лівенцаву, магла б быць напісана цэлая кніга. Відаць, лепш было б, каб аўтарам быў узяты для **ўсебаковага** разгляду адзін з «некаторых» прыёмаў.

Выдавецтва павінна было дапамагчы аўтару ўлічыць усё гэта.

На жаль, так не атрымалася, і настаўнік-чытач наўрад ці падзякуе аўтару і выдавецтву.

**Р. БЕЛЬСКІ.**



*Навіны дакументальнага кіно*

# «ДЗЯЎЧЫНА З ПАДАЛЕССЯ»



Ніне Пастуховай яшчэ толькі 20 год, але яна ўжо дэпутат абласнога Савета. Пра яе працоўныя поспехі ведае ўся краіна.

...Прырода толькі абуджаецца, яшчэ спіць вёска, а Ніна ўжо спяшаецца на ферму, дзе пачала працаваць адразу пасля дзесяцігодкі. Яна даярка. Пад яе наглядам знаходзіцца 95 дойных кароў. Ласкава ставіцца Ніна да кожнай сваёй выхаванкі. Усе яны размешчаны ў новым, механізаваным круглым кароўніку. З дапамогай механізмаў Ніна тройчы за дзень выдойвае ўвесь свой статак. Уступіўшы ў спаборніцтва ў гонар XXII з'езда партыі, яна змагаецца за тое, каб даць краіне як мага больш малака.

Усё больш і больш калгасных і саўгасных ферм абсталёўваецца навейшымі механізмамі. Але не ўсе ведаюць, як іх лепш выкарыстаць. Таму сюды, у саўгас «Падалессе», да Ніны часта прыходзяць будучыя гаспадыні новых апаратаў, каб вывучыць вопыт перадавой даяркі. Падзяліцца ім Ніна лічыць сваім абавязкам. Яна ветліва сустракае даярак, паказвае, як авалодала тэхнікай механічнай дойкі.

«Гэтая дзяўчына, — сказаў пра Ніну сакратар ЦК ЛКСМБ тав. Максімаў,— тыповы прадстаўнік новага пакалення сельскіх працаўнікоў, людзей адукаваных і культурных, якія маюць не толькі нястомныя залатыя рукі, гарачае камсамольскае сэрца, але і трывалыя веды. На такіх, як Ніна, зараз раўняецца ўся наша моладзь».

Да чаго ж прыгожыя летнія вечары! Чаму не патанцаваць пасля працоўнага дня...

Пра адзін з такіх звычайных дзён Ніны Пастуховай, пра яе сяброў расказвае дакументальны фільм «Дзяўчына з Падалесся», зняты па сцэнарыю Ул. Куляшова рэжысёрам С. Браўдэ і аператарам Ул. Цеслюком. Рэжысёра С. Браўдэ мы і бачым за манціраваннем фільма на нашым здымку.

## Падзеі Факты Навіны

□ Каля тысячы школьнікаў бяруць кнігі з Уздзенскай раённай дзіцячай бібліятэкі.

Прапагандысты літаратуры аформілі цікавы і змястоўны стэнд аб жыцці і дзейнасці Ул. І. Леніна, а таксама выстаўкі кніг «Насустрач XXII з'езду КПСС», «Савецкі чалавек у космасе», «Ці ёсць цуды ў прыродзе?», «Зрабі сам і навучы другога» і інш.

Нядаўна перад юнымі чытачамі выступіў заслужаны дзеяч культуры рэспублікі самадзейны кампазітар Павел Іванавіч Шыдлоўскі. Ён расказаў школьнікам пра беларускі фальклор.

Бібліятэка наладзіла абмеркаванне кнігі В. Лаўрынайціса «Пядзя залатая», М. Носава «Вясёлая сямейка», правяла канферэнцыю чытачоў па пытаннях беларускай дзіцячай паэзіі.

□ Спектаклем «Іркуцкая гісторыя» па п'есе Арбузава пачаў свае гастролі ў Гомелі Рыбінскі драматычны тэатр. У яго рэпертуары спектаклі «Барабаншчыца», «Усімі забыты», «Урыэль Акоста» і інш. За час гастролей артысты тэатра дадуць каля 100 канцэртаў у рабочых і сельскіх клубах Гомельшчыны, сумесна з моладдзю горада абмяркуюць спектакль «Дыплом на званне чалавека».

□ У Цэнтральным кніжным магазіне Мінска адкрылася секцыя ўкраінскай мастацкай літаратуры. На паліцах — творы на ўкраінскай мове Тараса Шаўчэнкі, Івана Франко, Лесі Украінкі, Астапа Вішні, анталогія ўкраінскага апавядання і многія іншыя.

Секцыя з'ўляецца часткай ствараемага ў магазіне аддзела братніх літаратур.

□ Магазіны спажывецкай кааперацыі Брэсцкай вобласці арганізавалі продаж кніг у крэдыт. У раённых цэнтрах гэту аперацыю праводзяць спецыялізаваныя кніжныя магазіны, а ў Давыд-Гарадку, Антопалі, Жабінцы, Малашэвічах, Дамачове, Шарашове, Целяханах, Дзівіне і іншых буйных населеных пунктах — гандлёвыя пункты мясцовых сельпо.

Пайшчыкі спажывецкай кааперацыі, якія працуюць ва ўстановах, арганізацыях, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, атрымалі магчымасць набыць у крэдыт неабходную літаратуру на суму да 10 рублёў. Парадак афармлення куплі кніг у крэдыт такі ж, як і іншых тавараў.

Новая форма гандлю спадабалася сельскім кнігалюбам. Многія з іх камплектуюць асабістыя бібліятэчкі, набываюць зборы твораў любімых пісьменнікаў, неабходную літаратуру па розных галінах ведаў.


Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 03653.

Друкарня імя Сталіна.